# Жанр вершаванага пасланя ў паэтычнай спадчыне Максіма Багдановіча

Максім Багдановіч адным з першых між паэтаў нашаніўскай пары пачаў актыўна выкарыстоўваць паэтычныя пасланні. Адна з прычынаў гэтага – практычная неабходнасць: жыў надта далёка ад тагачасных цэнтраў Вільні і Менску. Сувязь трымаў праз пошту. Паэтам заставаўся ва ўсім і лісты пісаў вершам. Безумоўна, ягоныя паэтычныя пасланні ёсць гэткай жа класікай беларускай паэзіі, як і ўсё, створанае мастаком. І ў гэтых творах Максім Багдановіч часта скарыстоўваў інтэртэкст. Як адзначае Ю.Пацюпа, за многія дзесяцігоддзі вывучэння літаратуразнаўцамі Багдановічавай спадчыны "выявіўся багаты глыбінны дыялог, які вёў аўтар "Вянка" з рознымі пісьменнікамі і эпохамі" [1, с. 106].

У гэтым плане асабліва цікавым з'яўляецца ліст да Антона Луцкевіча, аўтара першай рэцэнзіі на "Вянок", – "Пану Антону Навіне":

Дзень добры, пане! Вось Вам просты надпіс:

Ёсць гэткая японская забаўка, –
Кідаюць простыя аскёпкі дрэва
Ў ваду – і робяцца яны цвятамі.
Ўсё гэта мне згадалась мімаволі,
Калі чытаў я Вашую стаццю
Аб вершыках “Вянка”. І шлю падзяку.
І цісну руку. Ваш – М. Багдановіч [2, с. 271].

Пад тэкстам паслання мелася пазнака: “Яраслаўль. 22.III.1914 г.”. Як вядома, гэты верш быў напісаны ў адказ на артыкул (“стаццю”) Антона Навіны “Пясняр чыстае красы”, які быў надрукаваны ў “Нашай Ніве” 21 лютага пад псеўданімам “Г. Б.”. З лёгкай рукі крытыка такое вызначэнне мастакоўскай сутнасці аўтара “Вянка” застанецца за паэтам на многія гады. Антон Навіна дакладна ўлавіў тое, што падкрэсліваў паэт ужо ў назвах раздзелаў кнігі: “Малюнкі і спевы” – “і лёгка ліюцца яго вершы”, “чытаць вершы Багдановіча павінны толькі тыя, хто разумее музыку слова”. Многія высновы аўтара артыкула грунтам для сябе мелі Багдановічавы вобразы. Так, А.В. Бяляцкі адзначае: “А. Луцкевіч спрабуе і сам праз вобраз перадаць духоўную асалоду, якую прыносяць вершы паэта. “І як у летні дзень у крыштальна чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца наша цела, так асвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча”. Гэты сказ пераклікаецца з радкамі М. Багдановіча, які

цытуе Псалтыр: “Вось псальма слічная. “Як той алень шукае крыніцы чыстай, так шукаю Бога я”. Як вее свежасцю яе краса жывая!..”[3, с. 448]

Ды і ў знакамітай выснове крытыка: “Вянок” – гэта праўдзівая пэрла ў беларускай паэзіі” таксама знаходзім водсвет багдановічавай вобразнасці:

Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы
Упадзе пясчынка хоць адна,–
Жомчугам патроху робіцца яна! [2, с. 124]

Цёмная жамчужніца – гэта тое ж зачарованае царства, заснулая душа Беларусі, яе знямелая мова, здранцвелая культура, куды было ўкінута жывое Багдановічава слова, тая ж пясчынка, што ў жыццядайнай глебе ператварылася ў “праўдзівую пэрлу”.

Між чарнавых накідаў маецца яшчэ адзін твор, сугучны з гэтым пасланнем, – “Ёсць гэткая японская забаўка...”, які заканчваецца радкамі: “Баюся я, што Ваша спачуванне // Прымушу тое ж з вершамі зрабіць” [2, с. 433].

Максім Багдановіч не толькі дасканала ведаў творчасць тагачасных рускіх паэтаў,

але і быў знаёмы з літаратурай, што мела дачыненне да іх жыцця і творчасці. Відавочна, паэтычнае пасланне да Максіміліяна Валошына М.В. Сабашнікавай, напісанае ў адказ на пасланне да яе, і стала асновай для напісання гэтых двух вершаў:

Мне вспоминаются игрушки
Японские ( люблю Восток! ):
В стакан с водой бросают стружки,
И вот из них растет цветок.
Так строки Вашего посланья
Горят огнем воспоминанья,
Коснувшися души моей,
И тайно расцветают в ней. [5, с. 126]

Гэта яшчэ адно пацверджанне, што інтэртэкставасць выступае “як творчы прынцып паэта” [1, с. 107].

Многія нашаніўскія аўтары слалі вершы-віншаванні з нагоды “дня народзінаў” газеты, разумеючы вялікае значэнне гэтага выдання. Вядомыя пасланні Янкі Купалы, Алеся Гаруна і інш. Сярод іх – віншаванне з чарырохгоддзем, дасланае з Яраслаўля, якое было апублікавана 18 лістапада 1910г. ў № 47:

Вас днём нараджэння газеты віншую!
Гарачы прывет вам ад сэрца ўсяго!
Народ ужо к шчасцю за вамі прастуе,

Вядзіце ж і далей яго. [2, с. 230]

Найперш Максім Багдановіч падкрэслівае адраджэнцкую сутнасць працы нашаніўцаў, асветніцкую, будзіцельскую функцыю. А сама “Наша Ніва” – як той зніч, агмень, што асвятляе шлях. Паэт добра разумеў няпростыя варункі, у якіх даводзілася ствараць беларускую газету, як ведаў і шчырую адданасць нашаніўцаў беларускаму руху:

І што б ні нясло вам жыццё, гэтым рухам
Жывіце, ідзіце будзіць вы народ
І шчыра працуйце ўсім целам і духам,
што ж будзе, – пабачым праз год! [2, с. 230]

Праўдзівым трактатам аб сутнасці, вытоках мастацкай творчасці, аб прыродзе таленту мастака з’яўляецца верш “Ліст да Вацлава Ластоўскага”. Гэта не столькі паэтычнае пасланне тагачаснаму супрацоўніку “Нашай Нівы”, колькі дыскусія пра адрозныя творчыя прынцыпы, якія так па-рознаму рэалізаваліся ў творчасці вялікіх кампазітараў мінулага Моцарта і Сальеры. Бясспрэчна, “гэта паэтычны роздум над драмай А. Пушкіна “Моцарт і Сальеры”… На першы погляд, паэт абараняе Сальеры ад банальных уяўленняў пра кампазітара. А на самой справе перад намі споведзь самога

Багдановіча, абгрунтаванне яго цэнтральнай ідэі пра “спакойную думу” як аснову мастацтва” [5, с. 199]. Даследчык тут ідзе ўслед за А.А. Лойкам, які пісаў, што “вобраз Сальеры ў “Лісце...” – своеасаблівы аўтапартрэт Багдановіча, а “Ліст... у цэлым – паэтызацыя роздуму , “спакойнай думы” і працы, паэтычнага майстэрства як асноўнага ў падвалмнах паэзіі Багдановіча” [6, с. 163].

Напісаны ў 1913 годзе, верш упершыню быў надрукаваны толькі ў 1917 у газеце “Гоман” у №48. Вельмі позна, бо меў непасрэдныя адносіны да тагачаснай нашаніўскай дыскусіі, пачатай менавіта Вацлавам Ластоўскім, і ўспрымаецца як працяг размовы, дасканала ўпісваецца ў гэтую дыскусію як адзін з адказаў на артыкул “Сплачывайце доўг”. Максім Багдановіч выказвае асноўныя эстэтычныя прынцыпы, якім заставаўся верным у сваёй творчасці. Рацыянальнасць, прадуманасць, штодзённая праца над зместам і формай здольны прыносіць сапраўдную асалоду творцу, асалоду ад створанай ім красы:

Таксама робіш ты, дума, і у паэта
Краснейшым кожын твор. Прывет табе за гэта!
Прывет мой і табе, штодзённы рупны труд, –

Гатуеш радасць ты ад творчаскіх мінут. [2, с.264]

Ірына Багдановіч доказна даводзіць "уплыў асобы і паэтыкі М. Карыцкага на выпрацоўку эстэтычнай праграмы М. Багдановіча, адлюстраваную ў вершы" [7, с. 174]. Даследчыца найперш мае на ўвазе верш М. Карыцкага "Да аднаго паэта", у якім сфармуляваны асноўныя прынцыпы эстэтыкі класіцызму. Не прымаючы пастулату пра карыснасць як мэту прыгажосці, "тэзіс аб харастве, збудаваным розумам, аб "штодзённым рупным трудзе" Багдановіч прымаў, падзяляў і развіваў далей"[9, с. 175].

Вядомы верш Максіма Багдановіча "Быць можа, пуціна жыцця..." – гэта паэтычнае прысвячэнне Дзіядору Дзябольскаму, гімназічнаму сябру паэта. Філасофскі прынцып колазвароту пакладзены ў аснову гэтай мастацкай філасофіі жыцця, дзе шлях чалавека замыкаецца ў крузе, коле, сімвалам якога ёсць пярсцёнак:

Быць можа, пуціна жыцця
Лягла пярсцёнкам, друг
І я ў краіне забыцця
Не раз раджаўся, як дзіця,
Прайшоўшы поўны круг.[2, с. 245]

Толькі аднойчы, толькі ў гэтым вершы “дазволіў сабе Багдановіч паэтычную медытацыю на тэму “вечнага вяртання” індывідуальнага жыцця” [5, с. 142]. І гэта адзіная “слабасць” пазначана шчырай надзеяй на паўтарэнне пройдзенага, бо жыццё ж увогуле бясконцае, паўтараецца ў розных сваіх праявах, таму і жыццё кожнага чалавека, як часцінка вялікай цэласнасці, таксама мае надзею на аднаўленне ў новай сутнасці:

І ў новым свеце пройдзе ўсё
Былое прада мной..
Што ж: хай канчаецца жыццё,
Хай зноў зварушыцца чуццё
Мінулай пуцінай.[2, с.245]

Максім Багдановіч і свае фотаздымкі падпісваў вершаванымі радкамі. У кнізе “Сяргей Палуян. Лісты ў будучыню”, падрыхтаванай да друку Таццянай Кабржыцкай і Вячаславам Рагойшам, поруч змешчаны два падараваныя маладому нашаніўцу фотаздымкі – Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. І калі б мы нічога не ведалі пра няпростыя дачыненні двух найвялікшых паэтаў, нічога не ведалі пра адметнасць іх талентаў, іх творчай манеры, гэтых подпісаў на фотаздымках было б дастаткова, каб зразумець, якія ж яны розныя – Купала і Багдановіч. Размашысты,

вельмі няроўны, далёкі ад каліграфічнага почырк Янкі Купалы (згадайма, пасаду пісара Ясь Луцэвіч страціў аднойчы якраз з-за почырку), словы ў надпісе размешчаны адвольна, відавочна, аўтар не надта мудраваў і ў афармленні надпісу, і ў стварэнні ягонага зместу: “На добрую памятку С. Палуяну. Ахвяроўваю ад шчырага сэрца”. Ніяк нельга сумнявацца ў шчырасці паэтавых словаў, але недарэмна ж юны Максім Багдановіч папракаў Купалу ў занядбанні формы. Відавочна, мугутны, стыхійны Купалаў голас не мог заўсёды ўкласціся ў цесныя рамкі формы. Здавалася б, дробязь – надпіс на фотаздымку, але яна выразна характарызуе адрознасць гэтых вялікіх талентаў, якую найбольш дасканала вызначыў купалазнаўца Дз. Санюк: “Багдановіч – антаганіст Я. Купалу па духу творчасці.., яны крайнія супрацьлегласці па стылю, манеры думання, па мастацкай інтуіцыі… Купала ўвесь няправільны, няроўны, увесь з “барочным” адценнем, некласічны, Багдановіч – правільны, роўны, з адменным класічным густам” [8, с. 15]. Відавочна, аўтары-ўкладальнікі кнігі “Лісты ў будучыню” невыпадкова змясцілі поруч гэтыя фотаздымкі, яшчэ раз падкрэсліўшы, як хораша, шчыра ставіліся нашы класікі да Сяргея Палуяна. Адначасова і праз гэта таксама падкрэсліўшы іх адрознасць: поруч з стыхійным, няроўным Купалавым радком –

надзвычайнай прыгажосці, дасканалы, каліграфічны почырк Максіма Багдановіча, роўненькія радочкі, як пад лінейку, быццам выгравіраваны гэты надпіс. Калі б гэта было сёння, – быццам выкарыстаны магчымасці кампутара. Ізноў жа – той надпіс – паэтычнае пасланне, створанае ў жанры трыялета, які Максім Багдановіч першым увёў у наша прыгожае пісьменства:

Я, нядужны, бязскрыдлы паэт,
Помню, раз пазабыў сваё горэ,
Бо ў той час атрымаў ваш прывет.
Я – нядужны, бязскрыдлы паэт:
Мо не выкажа вам трыолет,
Дык хоч гэты партрэт хай гаворэ,
Як нядужны, бязскрыдлы паэт
На гадзіну забыў сваё горэ.[8, с.112]

Гэты ж трыялет Максім Багдановіч раней выкарыстаў і ў надпісе на фотаздымку для М.А. Кіціцынай, загадкавай, рамантычнай асобы, пра якую ведаем нямнога. Але, відавочна, яе вобраз глыбока хваляваў маладога паэта, пакінуў у ягонай душы значны след, бо і іншыя вершы таксама ахвяраваны гэтай дзяўчыне.

У спадчыне Максіма Багдановіча тры вершы, прысвечаныя С.Палуяну: трыялет, змешчаны на зваротным баку фотаздымка, трыялет «С.Палуяну», верш «С.Е. Палуяну».

Напісаны ў 1909 годзе, пры жыцці паэта, апошні з пералічаных твораў успрымаецца як прароцтва. Недарэмна многія аматары паэзіі Багдановіча дапускаюць памылку, лічачы, што верш напісаны пасля трагічнага сыходу адзінокага юнака, на якога беларускае прыгожае пісьменства ўскладала вялікія надзеі. Гэтую недакладнасць сустракаем нават у прадмове ўкладальнікаў да кнігі "Лісты ў будучыню": "Яркім метэарытам бліснуў Сяргей Палуян у густой цемры сталыпінскай рэакцыі пасля паражэння першай рускай рэвалюцыі.

"Усё кругом на мамэнт асвяціць
І пагаснуць у цёмнай імглі"

– напісаў у некралозе Максім Багдановіч" [9, с. 3]. Размова ідзе не столькі пра памылку, колькі пра блізкасць гэтых талентаў, пераплеценасць іх лёсаў, аднолькавую прагу красы і светласці.

Жыццё паэта у вершы параўноўваецца з яркім следам зоркі, што сваім ззяннем асвятляе начное неба. Гэткім жа яркім ёсць і шлях творцы:

Так свабодна, так ярка пражыць —
Лепшай долі няма на зямлі.
Усё кругом на мамэнт асвяціць
І пагаснуць у цёмнай імглі [2, с.104].

Мажліва, гэты верш гучаў для Сяргея Палуяна рэквіемам у тыя ягоныя апошнія хвіліны, калі рыхтаваўся да сыходу, калі пісаў развітальны ліст? Бо знаходзім непасрэдыя перазовы: у лісце — “Я так люблю жыццё, светласць і красу…” [10, с. 125], і ў вершы — гэтак жа: «Светлы ж след будзе вечна жывым». Мо гэтая вера — светлы след… — дадала яму сілаў сысці.

І ўжо пішучы апошні трыялет «С. Палуяну» Максім Багдановіч ізноў уваскрашае багдановічаўскія-палуянаўскія вобразы: «Красу, і светласць, і прастор // шукаў…» Галоўнай прычынай трагедыі маладога нашаніўца Багдановіч лічыў адзіноту, бо добра ведаў, што гэта такое: сам усё жыццё быў адзінокім. Пісаў і пра сябе таксама, і сваю долю прадказаў:

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.
Хоць свет і людны, і шырокі, —
Ты быў, як месяц, адзінокі [3, с.260].

Паэтычна, вобразна вызначаў А.А. Лойка прычыны, чаму Максім Багдановіч, гэткі ж адзінокі, і пакутаў меўшы не меней, усё ж не зламаўся, не сышоў. Аўтар верша нібы падкрэсліваў, “што свет і людны, і шырокі” заўсёды быў перад яго, Багдановіча, вачыма – свет з вечным абнаўленнем і

суровай дыялектыкай развіцця, з радасцю нараджэнняў і красой квітненняў, з усходамі сонца і далёкімі зорамі, да якіх ён, свет, ляціць у сваім спрадвечным руху” [6, с. 107].

Шматлікія вершы-пасланні Максіма Багдановіча, прысвечаныя ягонай каханай Ані Какуевай, – праўдзівыя шэдэўры інтымнай лірыкі, што ўяўляе сабой асобную вялікую тэму, некаторыя аспекты якой даследаваныя многімі багдановічазнаўцамі.

Наогул, уся творчая спадчына нашага наймаладога класіка – гэта цудоўнае паэтычнае пасланне ўсім, хто шукае красу і светласць.

Літаратура:

1. Пацюпа Ю. Цытаты і цэнтоны ( Да паэтыкі Максіма Багдановіча ) // Взаимодействие литератур в мировом литературном процессе. Гродно, 1998 – С. 106–110.

2. Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3 т. Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. – Мн.: Навука і тэхніка, 1992. – 752 с.

3. Бяляцкі А.В. Антон Луцкевіч // Гісторыя беларускай літаратуры ХХст.: У 4т.

Т.1. Мн.: Беларуская навука, 1999. – С. 447–462.

4. Волошин М. Автобиографическая проза. Дневники. М.: Кніга, 1991. – с. 426.

5. Конан У. Святло паэзіі і цені жыцця: Лірыка Максіма Багдановіча. Мн.: Маст. літ., 1991. – 208 с.

6. Лойка А.А. Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя. Некаторыя заканамернасці і асаблівасці. Мн.: Выд-ва БДУ, 1972. – 240 с.

7. Багдановіч І.Э. Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. Мн.: Беларуская навука, 2001. – 387 с.

8. Санюк Дз. Эстэтыка творчасці Янкі Купалы. МН.: Беларускі кнігазбор, 2000. – 211 с.

9. Кабржыцкая Т., Рагойша В. Плата добрым словам // Палуян С. Лісты ў будучыню: Проза. Публіцыстыка. Крытыка. Мн.: Маст. літ., 1986. – С. 3–32.

10. Палуян С. Лісты ў будучыню: Проза. Публіцыстыка. Крытыка. Мн.: Маст. літ., 1986. – 215 с.

# З Купалавым імем, з Купалавым Словам

Янка Купала – гэтае імя гучыць як песня. Бо гэта імя таго, хто вярнуў беларусам Слова, дадзенае ім ад Бога. Слова, якое загучала магутнай пагудкай, што пранеслася над Краем . Людзі зразумелі, што яны – ёсць і што жыве іх Бацькаўшчына, жыве Беларусь.

Прыход вялікага Паэта быў падрыхтаваны самім часам – незвычайнай парой абуджэння пасля стогадовай нематы і занядбання, калі ўжо прагучалі Багушэвічава дудка і ягоны смык, абвясціўшы свету “аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя “мужыцкай” завуць, а завецца ж яна “беларускай”.

Незвычайны час абрала Неба дзеля прыходу Паэта ў свет – купальскую ноч – час росквіту, час вялікай таямніцы, калі ўсё жывое перапоўнена магутнай сілай, прагай падоўжыць сябе праз вялікае каханне і любоў. Гэтак і зямля наша чакала таго, хто дасць жыццю на яе абшарах надзею на вечнасць, хто пакажа гэтаму жыццю шлях.

Чым больш часу сплывае над нашай зямлёй, тым больш разумееш: ідэі,

закладзеныя ў душу беларусаў Купалам, не трацяць свае актуальнасці. Як своечасова гучала ягонае Слова на золку нашай аднoўленай дзяржаўнасці на пачатку 90-х, так і сёння не страціла яно сваёй значнасці: “Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу”. Беларусам застаецца толькі слухаць свайго Прарока,

бо інакш існуе вялікая пагроза вяртання ў змрочны дакупалаў стан. Застаецца верыць Ягонай веры, якую выказаў гэтак горача, палымяна, упэўнена: “Арлiным узмахам агняцветнай думкі мы скінулі і патапталі даўгавечную брахню, што Беларусі не было і няма. Сваім векапомным і магутным духам народным, што адважна сягае да сонца, мы паказалі свету, што Беларусь была, ёсць і будзе”.

Купала, бадай што, самы ўганараваны з усіх беларускіх творцаў. Першы, каму было прысвоена званне народнага паэта ў далёкім 1925г. у сувязі з 20-годдзем творчай дзейнасці. Ягоным імем названы вуліцы, створаны музеі, яму пастаўлены помнікі. І не толькі ў нашай краіне. У далёкай Амерыцы ў Араў-парку яшчэ ў 1973годзе быў узведзены помнік беларускаму песняру, у вобразе якога спалучаюцца драматызм і рамантыка.

Інстытут літаратуры Нацыянальнай Акадэміі навук таксама носіць імя Янкі Купалы. У Заходняй Нямеччыне ў 1945–50-х гадах працавала Беларуская гімназія імя Янкі Купалы, дзе ўзгадоўваліся сапраўдныя патрыёты Беларусі. А з 1957 года, вось ужо паўстагоддзя, Гродзенскі дзяржаўны універсітэт носіць гэтае імя, што з вялікім гонарам ўспрымаецца студэнтамі і выкладчыкамі нашай ВНУ.

У кожнага – асабістае ўспрыняцце творчасці вялікага Песняра, свае любімыя творы. Для кагосьці – гэта цудоўныя лірычныя вершы, што сталі песнямі: “ Явар і каліна”, “Жняя”, “Ты прыйдзі”, для іншых – напоўненыя высокай рамантыкай гераічныя паэмы “Гусляр “ і “Бандароўна”, у якіх сцверджана перамога дабра над злом, услаўлена моц духу чалавека, народжанага вольным, падуладнага толькі ідэалам высокага Неба. І, безумоўна, ягоныя драматычныя творы. Найперш любімая беларускім людам “Паўлінка”, прэм’ера якое адбылася ў нашай Гародні яшчэ ў 1919 годзе, калі галоўную ролю выконвала сама Паўліна Мядзёлка. І сімволіка-рамантычная драма “Раскіданае гняздо” – адзін з лепшых спектакляў Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. І, канешне ж, “Тутэйшыя”– п’еса, што так пакутна ішла да гледача. А “Паэма без слоў” паводле

драматычнай паэмы “Сон на кургане”, спектакль , створаны Гродзенскім тэатрам лялек, уражвае новым, адметным прачытаннем спадчыны народнага паэта, успрымаецца надзвычай актуальна, бо праблема барацьбы дабра са злом – вечная, бо занядбанне нарднага духу – гэта вялікая трагедыя, што вядзе да нябыту. Якраз зараз чакаем прэм’еру ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры – спектакль паводле Купалавых “Прымакоў”.

Па-рознаму прыходзіць Купалава песня-дума ў людскія душы. Цудоўна, калі з матчыным словам, у сям’і, дзе ёсць беларускія кнігі, дзе гучыць наша мілагучная мова, дзе шануюцца каштоўнасці высокага духоўнага кшталту.

Кожныя штопяць гадоў мы, выпуск беларускага аддзялення філфаку ГрДзУ 1981 года, ладзім сустрэчы. З аднакурснікамі, выкладчыкамі, з далёкімі студэнцкімі гадамі, з універсітэтам. І, канешне, з Янкам Купалам. А нязменнае месца спатканняў – ля помніка Паэту. Многія з нас назаўсёды звязалі сваё жыццё з беларускай літаратурай, а гэта азначае – з Янкам Купалам. Бо ўсё наша прыгожае пісьменства 20-га стагоддзя развівалася пад знакам Ягоных велічных ідэяў. І ў новае стагоддзе, у новы час незалежная Беларусь увайшла з Ягонымі

запаветамі. Пад Купалавай зоркай узгадоўваюцца новыя пакаленні беларусаў.

# Нашаніўцы ў трылогіі Якуба Коласа “На ростанях”: вобразы і прататыпы

Сярод шматлікіх лірычных адступленняў у трылогіі Якуба Коласа “На ростанях” заўсёды кідалася ў вочы надзвычай кранальнае, як просьба прабачэння ці даравання, якім пачынаецца XVII раздзел апошняй часткі: “Амаль паўвеку прайшло з таго часу, калі мае “валачобнікі”, а з імі і я, хадзілі ў Панямонь з велікоднымі візітамі і павіншаваннямі. Шмат каго з тых людзей, аб якіх расказваецца тут, ужо няма на свеце. І калі я сягоння трывожу іх памяць, то мне робіцца сумна: быць можа, не так сказаў пра іх, як гэта было ў сапраўднасці, часамі, можа, недарэчы пасмяяўся або не ў меру зганьбіў каго. Яны не напішуць мне і не прыйдуць да мяне, каб сказаць: “Ты адступіў ад праўды, бо мы не такія, як ты нас паказваеш”. Калі б яны былі жывыя, дык мы паразумеліся б і прыйшлі да згоды. А так я магу толькі сказаць: “Прабачце! Я ж хацеў і хачу аднаго — праўды”[1].

Але ці мог сабе дазволіць у тым часе нават ён, вялікі Якуб Колас, пісаць адну толькі праўду? (Згадайма, над заключнай

часткай трылогіі аўтар працаваў з 1948-га па 1954-ы год).

Аўтар спасылаецца на вельмі вялікі як для чалавечага жыцця адрэзак часу — “амаль паўвеку” — з-за чаго быццам бы нешта забылася. Але ж чалавечая памяць мае гэткую даволі парадаксальную ўласцівасць: тое, што было ў дзяцінстве, юнацтве, што кранула душу, памятаецца часам лепей, чым штосьці сягонняшняе.

Падаецца, працытаванае вышэй, — не столькі да “валачобнікаў, на адрас якіх не сказана нічога благога, колькі да іншых асобаў, ні адной з якіх у тым часе ўжо не было між жывымі. Да тых, хто ствараў першыя легальныя беларускія газеты, хто ўзначальваў сацыял-дэмакратычны рух, хто быў на чале Адраджэння Беларусі. Па назве “унікальнай у сваёй народнасці” (А.А.Лойка) газеты “Наша ніва” названы і ўвесь гэты перыяд (пачатак XX ст. ) беларускай гісторыі, літаратуры. Яны ж — стваральнікі гэтай газеты — нашаніўцы. У трылогіі намаляваны вобразы, прататыпамі якіх былі Аляксандр Уласаў, Іван і Антон Луцкевічы.

Але найперш — пра саму “Нашу ніву” ў творы. Згадайма ізноў жа: усё, што было звязана з гэтай газетай у часе напісання аповесці шальмавалася, ганьбавалася, а

яшчэ часцей — замоўчвалася як буржуазна-нацыяналістычнае. Таму, відаць, Колас ні разу не падаў не толькі назвы “Наша ніва”, але і — “Наша доля”. Замест назваў — “першая беларуская газета”, “беларуская газета”, ці — “газета”. На жаль, і ў трылогіі, як і ў літаратуразнаўчых, гістарычных працах савецкага часу, “Наша доля” супрацьпастаўлена “Нашай ніве”: дэмакратычная — ліберальна-буржуазная. Затое Колас не прамінуў нагадаць, у якіх няпростых варунках выходзілі і адна, і другая газеты: “Кожны нумар газеты падпадаў пад рэпрэсіі царскіх чыноўнікаў і цэнзуры. Газету затрымлівалі, штрафавалі, канфіскавалі і, нарэшце, зусім забаранілі... Замест забароненай пачала выходзіць газета больш памяркоўная, з ліберальна-буржуазным ухілам. Аднак і гэтую рахманую газету царскія чыноўнікі заціскалі рознымі прыдзіркамі, прыгняталі штрафамі і белымі плямамі” (591).

Калі пры першай сустрэчы Лабановіч пытае рэдактара пра назву, той адказвае: “Мы яшчэ не ахрысцілі яе” (589). Не проста “назвалі” ці “далі назву”, а — “ахрысцілі”. Як пра жывую істоту. Згадайма, нашаніўскі паэт М.Арол у лісце да рэдактара-выдаўца наконт сваёй кнігі “Лірнік” гэтак жа — “ахрысціць”. У тым часе, калі імя давалася пры хрышчэнні, гэтаму надаваўся асаблівы

сэнс: Небам асвечана, да жыцця вечнага далучана.

Лабановіч шчыра радуецца, што ўрэшце і беларусы маюць сваю газету, вітае яе ўсім сэрцам, і гэта, бясспрэчна, — пачуцці самога аўтара, што засталіся нязменнымі з тых незабыўных часоў: “Для мяне гэта такая радасць, такое шчасце, што я баюся нават верыць у тое, што газета такая можа выйсці… Я не раз думаў, што для беларускага народа даўно патрэбен такі часопіс, які моваю народа, матчынаю моваю, зварачаўся б да яго са словам праўды”. (587).

Якуб Колас праўдзіва адлюстраваў і тое, як інтэлігенцыя, вітаючы выхад газеты, спрыяла распаўсюджанню яе сярод сялянства, і як адгукнуўся беларускі люд на ўпершыню прачытанае сваё роднае слова: “Усё гэта было так нова, так нязвыкла. Найбольш сардэчны водгук на з’яўленне беларускай газеты пачуў ён ад сялян свайго сяла Мікуцічы, куды знарок хадзіў пачытаць людзям напісанае іх простым, родным мужыцкім словам. І сам Лабановіч стаў гарачым і адданым прыхільнікам і прапагандыстам свайго роднага слова, на якім друкавалася газета”. (590).

З нашаніўцаў на старонках трылогіі мы найперш сустракаемся з рэдактарам-

выдаўцом Уласюком Мікітам Аляксандравічам, прататыпам якога і быў рэдактар “Нашай нівы” амаль ад пачатку ейнага выхаду да 1914 г. Аляксандр Уласаў. Арыштаваны органамі НКУС у 1939 г., засуджаны на 5 гадоў, згінуў у савецкіх лагерах паводле афіцыйных звестак 11 сакавіка 1941 г. “Адзін з самых вялікіх беларусаў XX ст. — жыцьцялюб..., рэдактар першай праўдзіва народнай у Беларусі газэты “Наша ніва”, эканаміст, асьветнік, сэнатар, чалавек, які разам са сваімі аднадумцамі дамагаўся для Беларусі незалежнасьці, вольнасьці”[2], — гэтак пісаў пра Аляксандра Уласава ў чарговую гадавіну ягонай гібелі пісьменнік Уладзімір Содаль.

Стасункі між Я.Коласам і А.Уласавым былі надзвычай плённымі. У біяграфічнай нататцы пра А.Уласава Г.В.Кісялёў падае наступнае: “У 1906 на нелегальным настаўніцкім з’езде ў Мінску пазнаёміўся з Я.Коласам, адразу ацаніў і падтрымаў яго талент. Пасля наведваў паэта ў мінскай турме, клапаціўся пра выданне яго твораў, мяркуюць, што ён быў укладальнікам яго першага зборніка “Песні-жальбы”[3].

Зразумела, па-рознаму намалявана тая першая сустрэча ў мастацкім творы і ва ўспамінах А.Уласава, у ягоным артыкуле, змешчаным у часопісе “Калосьсе” да 20-х

угодкаў з пачатку творчасці народнага песняра.

Той з'езд адбываўся "на дачы на Камароўцы". З добрай доляй гумару А.Уласаў апісвае тое ўражанне, што зрабіў на яго малады паэт. — "Хто тут з вас з Мікалаеўшчыны беларускія вершы фабрыкуець? — Выходзіць лабаценькі, з чорнай маладзенькай бародкай. Від у яго быў не саўсім забіты сэмінарскай трафарэтнай вучобай"[4].

Далей А.Уласаў называе Коласа "жамчужным зернем", згадвае, як у часе сяброўскай вячэры "хлапец пераабразіўся, вочы яго зьзялі, твар адухатварыўся. Мілагучныя рыфмы сьпявалі ў яго. Мы ўсе зразумелі, што перад намі — узыходзячая зорка беларускай паэзіі".

Той нелегальны настаўніцкі з'езд аўтар трылогіі называе "патайной нарадай", дзе вялася размова пра "барацьбу з самадзяржаўем". З'яўленне рэдактраў выклікала ўвагу прысутных. Вось як апісаны рэдактар беларускай газеты: "Чарнявы, плячысты, з пышнымі чорнымі вусамі, крыху касавокі: адно вока пазірала, як кажуць, на Маскву, другое на Варшаву. На выгляд яму можна было даць гадоў за трыццаць... Ні да якой партыі ён не належаў, называў сябе

незалежным хутаранінам, хоць цалкам падзяляў праграму беларускай сацыялістычнай грамады” (582).

Шлях, на які скіраваны Уласюк, — гэта культурна-асветніцкая праца. Сярод іншых вылучаецца здольнасцю дасціпна, з гумарам вытлумачыць сутнасць тых рознагалоссяў, што ўзніклі ў часе дыскусіі. Ягоны аповед пра капусныя галоўкі, што, праўда, не “дужа спадабаўся прысутным”, аднак жа ўхвальвае Лабановіч: “Удалы прыклад прывялі вы — аб капусце” (589).

Наогул, тая першая сустрэча Лабановіча з Уласюком — гэта сустрэча блізкіх па духу людзей, якім ёсць пра што пагутарыць, якія жывуць адной справай, кіруюцца адной мэтай: “Служыць беларускаму народу, змагацца за яго грамадскія і нацыянальныя правы, абуджаць яго свядомасць” (589). Размова доўжылася “далёка за поўнач”. Уласюк паўстае гэткім актыўным, дзейсным і разам з тым дабрадушным, жартаўлівым, увесь час смяецца, за кожнай фразай паўтарае сваё заўсёднае “Што?” , якое, аднак, адказу не патрабуе.

З кожнай сустрэчай Уласюк падаецца ўсё менш прывабным. Лабановіч як бы вымушаны па-новаму разгледзець рэдактара, для чаго і партрэтная характарыстыка

падаецца яшчэ раз, быццам гэта сустрэча — упершыню: “Высокі, плячысты, з пышнымі чорнымі вусамі. Відаць, перад адзяваннем рэдактар чапляў на вусы навуснікі, а канцы іх, туга нацягнуўшы, завязваў на патыліцы і так хадзіў з гадзіну, каб прыдаць вусам пажаданы для іх выгляд. Уся постаць рэдактара, манера трымацца з людзьмі, капялюш і адзенне сведчылі аб тым, што ў яго быў загадзя надуманы намер рабіць на людзей уражанне, пусціць ім у вочы пыл для большай павагі. Свайму знешняму выгляду рэдактар надаваў не малое значэнне. У гутарцы з маладзейшымі людзьмі ён трымаўся незалежна, любіў ужыць такое слова або сказ, каб паказаць сябе чалавекам самабытным, не падобным да іншых і ў той жа час жартаўлівым і аптымістычным. Пры кожным трапным сказе ці выслоўі сам смяяўся паважным басавітым смехам” (635). У яго, аказваецца, і “рука цяжкая”, і вочы адводзіць убок. Вобраз рэдактара прыніжаецца, чалавек падаецца наскрозь штучным, фальшывым, страчвае тую прывабнасць, што ўзнікае ў чытача ў часе першай сустрэчы. Манернасць, “франтаватасць”, дагледжаныя вусы, належны выгляд якім, “відаць”, надаюць навуснікі — усё гэта не спрыяе з’яўленню прыемнага ўражання ад вобліка героя.

І ўрэшце, зусім карыкатурным падаецца гэты вобраз у часе ранішняй сустрэчы на кватэры. Аўтар “распрануў” свайго героя. Гэткі не зусім этычны прыём: апісвае рэдактара ў часе ягонага “ўрачыстага” выхаду: “Высунуўся Мікіта Аляксандравіч, босы, у адной толькі ніжняй кароценькай сарочцы. Уся яго постаць нагадвала чыгунную тумбу. Нельга было без смеху глядзець на гэтую амаль голую фігуру. Пад носам Уласюка красаваліся навуснікі, канцы якіх былі завязаны на патыліцы” (642).

Пышныя чорныя вусы — “відаць”, скарыстаны навуснікі — і ўрэшце — у навусніках і начной кашулі — гэткую “эвалюцыю” праходзіць апісанне адметнай партрэтнай дэталі ў творы. А між тым, згадайма фотаздымкі Якуба Коласа тых часоў: гэтак жа акуратна дагледжаныя вусы. Пэўна, ведаў, як карыстацца тымі навуснікамі. А якім элегантным выглядаў Янка Купала. Акуратнасць, старанны догляд за сваёй знешнасцю — ці можна лічыць гэта аб’ектам насмешкі?

Аднак жа самую “знішчальную” характарыстыку рэдактару Якуб Колас не ўкладвае ў вусны Лабановіча. Яе “прамаўляе” вельмі непрыемная асоба, панямонец Баўдзей: “Рэдактара Уласюка называў ён абмежаваным прасцяком” (648). Гэта гэткая

ж лухта, як і тое, што непатрэбна ні беларуская мова, “калі ёсць дасканалая, развітая руская мова, якую беларусы добра разумеюць”, ні беларуская газета, ні школа, ні тэатр. Недарэмна ж Лабановіч “у злосці” называе гэта “панямонскім баўдзействам” (649).

Думаецца, вельмі няпроста было Якубу Коласу ў гэткім выглядзе маляваць вобраз свайго “першага рэдактара” (С.Белы)[5].

Пэўна ж, памятаў ён зусім іншае: адведзіны ў астрозе, працу ў беларускай школцы, што была арганізавана ізноў жа Уласавым (“Ён быў першым беларускім вучыцелем першай беларускай школы”). Згадваліся, напэўна, і тыя прачулыя словы, што напісаў пра яго першы рэдактар: “Браце Якубе! Можа, прачытаўшы гэта, Ты ўспомніш нашу залатую моладасьць і моладасьць беларускага адраджэньня і наш стары “губернскій горад” Менск. Можа, пішучы аб Табе, я, адышоўшы ад актыўнай работы, стары, ужо ня ўмею трымаць нос па ветру і не ўсім дагаджу: ня прывык я гэтае рабіць… Прайшоў Ты праз жыцьцё, зрываючы, як і маё пакаленьне, мала кветак і многа церняў і турмы. Для мяне ўсё-ж гэта гонар, што я першы Цябе расшукаў — не праз абвесткі ў газетах, а праз лапцяватых мужыкоў! Я — твой хросны бацька…”[6]

Якуб Колас па запрашэнні Уласава шэсць тыдняў у 1907 г. адпрацаваў у “Нашай ніве”. Ягоны герой упершыню уваходзіць у рэдакцыю, як у храм, перажывае, відаць тое ж, што і калісьці сам аўтар: “Нясмела, з некаторым хваляваннем і нават страхам, пераступіў Лабановіч парог дома, дзе была рэдакцыя” (634). Агульнавядома, у якіх цяжкіх матэрыяльных варунках праз амаль увесь час знаходзілася рэдакцыя. І Я.Колас піша пра тое: “Для выдання газеты спецыяльных грошай няма, ... працуюць больш з-за ідэі, чым з-за ганарару” (638). І сапраўды, усе, для каго Адраджэнне Беларусі сталася справай жыцця, працавалі дзеля гэтай ідэі і гэтак жа, як і Лабановіч, любілі сваю газету: “Люблю яе. Люблю ўжо таму, што гэта першая беларуская газета. А самае важнае тое, што яе ахвотна чытаюць простыя людзі, для якіх яна прызначаецца” (641).

“Душою “Нашай нівы”, яе “рухавіком...”, “генератарам” яе ідэй, якія ішлі ў народ і вярталіся ў газету, ... былі найперш браты Іван і Антон Луцкевічы... Іван... усё жыццё ахвяраваў дзеля стварэння Беларускага Музея — яркіх фрагментаў калісьці жывой, але стагоддзямі раскрадзенай культуры. Яго брата Антона прафесійным палітыкам зрабіла жыццё, лёс Бацькаўшчыны. Па сваім прызванні і таленце гэта быў даследчык,

эстэтык, публіцыст, літаратурны крытык, лектар і настаўнік”[7], — гэткую, абсалютна праўдзівую характарыстыку дае братам Луцкевічам У.Конан.

На жаль, у тым часе пра ніякую праўдзівую інфармацыю аб гэтых дзеячах Адраджэння нельга было і марыць. Таму гэтыя асобы, выведзеныя праз вобраз Яся і Стафана Ліскоўскіх (адназначна зразумелае гаваркое прозвішча), паўстаюць гэткімі “слізкімі”, “хітрымі”, “няшчырымі” русафобамі, чые погляды скіраваны на захад (якая крамола!), у чые вусны ўкладзены гэткія “знішчальныя” фразы: “Не з азіяцкай жа Расіі ідзе культура!” (643). І таму, канешне ж, “мяжа, што разлучала іх з Лабановічам, засталася непяройдзенай” (644). Але, ізноў жа, самая непрывабная характарыстыка гэтых герояў сыходзіць не ад Лабановіча, а ад таго ж Баўдзея: “Яны проста — іезуіты, са шляхецкаю афарбоўкай. Іх трэба асцерагацца, ... умеюць залезці чалавеку ў душу з тым, каб што-небудзь апаганіць у ёй” (648).

Пэўна ж, нават сама згадка пра гэтых асобаў (згадаем, Іван Луцкевіч памёр ад сухотаў 20 жніўня 1919 г., Антон быў арыштаваны ў Вільні ў 1939 г., асуджаны за “кантррэвалюцыйную” дзейнасць на 8 гадоў, загінуў 23 сакавіка 1942 г.) у часе напісання

трылогіі была крамолай. Ці не ўпершыню па іх смерці ў беларускай літаратуры было (хоць гэтак) напісана пра іх і пра “Нашу ніву”.

Літаратура:

1 Я.Колас. Збор твораў у 14 Т. Т. 9. Мн.: Маст літ., 1975. (Далей — цытаты па гэтым выданні, у дужках — старонка).

2 Содаль У. Ізноў Мігаўка ці Апошнія сведкі // Наша ніва. 10 лістапада. 2001. — С. 6.

3 Кісялёў Г.В. Уласаў Аляксандр // Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік у 6 т. Т. 6. Мн.: Бел. энцыклапедыя, 1995. — С. 121.

4 Уласаў А. Якуб Колас і “Наша ніва” // Калосьсе, 1936. № 5. — С. 297.

5 Белы С. Першы рэдактар Коласа // Літаратура і мастацтва. 18 снежня. 1987. — С.16.

6 Уласаў А. Якуб Колас і “Наша ніва”. — С.297.

7 Конан У. Філасофія і эстэтыка нацыянальнага Адраджэння // Крыніца, 1999. № 4-5. — С.27-28.

# Водгукі трагедыі: Нашаніўцы пра Сяргея Палуяна

Вечны юнак Сяргей Палуян быў самай яркай постаццю між нашаніўскіх творцаў, якую падаравала Беларусі Палессе. Узгадоўваўся ён на Піншчыне. Зямля гэтая «сумная, як доля вечна адзінокага чалавека, пустынная і пекная пакрасай бесканечнай маркотнасьці, маркотнасьці за сонцам, сьвятлом і харастовам тых мар, што вечна, як дымка туманоў над удоламі гэтай старонкі, снуюцца ў душах тутэйшага народу» [1, с. 274], — гэтак вобразна, паэтычна ахарактарызаваў родную старонку паэта Вацлаў Ластоўскі. То быў першы водгук «Нашай Нівы» на трагічны сыход паэта, што не мог не выклікаць у душах тых, хто яго ведаў, вялікага, незагойнага болю.

Гэты артыкул-некралог так і называўся — «Памяці Сяргея Палуяна». В. Ластоўскі, шчыры прыхільнік таленту маладога паэта, быў адзіным з нашаніўцаў, хто прысутнічаў на пахаванні. У Вільні даведаліся пра трагедыю з кароткай тэлеграмы, вырашылі, што паедзе ў Кіеў В. Ластоўскі.

А мінула ўсяго некалькі месяцаў, як С. Палуян пакінуў Вільню. Як падаецца, нельга катэгарычна сцвярджаць, што «верхнепалатнікі» (аўтары прадмовы да «Лістоў з будучыні» выкарыстоўваюць недарэчную і ў гэтым кантэксце абразлівую назву, кінутую С. Палуянам, перанесеную ў савецкае літаратуразнаўства з вульгарызатарскімі, ідэалагічнымі мэтамі) «нават іранізавалі з гэтага (нідзе не дзенецца, вернецца!), змясціўшы ў «Паштовай скрынцы» газеты адкрыты адказ на запытанне Ц. Гартнага: «... Адзін ізноў у Кіеве» [2, с. 17]. Адкуль бачна іронія? Сціслае, канкрэтнае паведамленне. Пры іншым падыходзе можна прачытаць і гэтак: «Нашаніўцы ў скрусе: «Адзін ізноў у Кіеве». Адзінокі, без падтрымкі, як яму там?.. »

Артыкул В. Ластоўскага надзвычай прачулы, эмацыянальны. Аўтар не хавае свайго болю. І разам з тым глыбокі, аналітычны: шукае, даследуе прычыны трагедыі. Найперш яны глыбокія, спадчынныя, бо С. Палуян — нашчадак «слаўных Лесаўшчыкоў — Брагінскіх і Пінскіх казакаў, каторыя ў трудныя моманты шэрай гісторыі нашага краю браліся за аружжа і, пераможаныя сілай, не паддаваліся, але палілі сябе цьвёрдай рукою ў кастрышчах сваіх хат» [1, с. 274]. З іншага боку — смутак і маркотнасць гэтай зямлі, што вялі да

меланхоліі лепшых сыноў. Гэтак В. Ластоўскі вызначае тыя два пачаткі, дзве душы, што змагаліся ў адной асобе, кіпелі і бурлілі, шукалі выйсця, вялі да трагедыі. Крыху пазней Максім Гарэцкі ў сваёй творчасці глыбока даследуе гэтую з’яву — раздваенне душы беларуса. А малады філосаф беларус Ігнат Канчэўскі напіша свой знакаміты трактат «Адвечным шляхам» і гэтак жа трагічна і ў гэткім жа веку, як і С. Палуян, пойдзе з жыцця.

Высокія мары, вялікія высілкі дзеля іх здзяйснення і ніякіх магчымасцяў іх рэалізаваць; шырокая, адкрытая да свету і людзей душа і неразуменне, пакінутасць, адзінота. Вось і ўтварылася тое зачараванае кола, з якога выйсце — толькі нябыт.

В. Ластоўскі змяшчае тут жа ліст С. Палуяна да ягонага сябра-ўкраінца. Апошні, развітальны ліст. Лаканічны, урыўкавы. Але змяшчае ў сабе надзвычай многа: прызнанне ў вялікай любові да жыцця: «Я так люблю жыцьцё, сьветласьць і красу… »; разуменне сваёй асуджанасці, безвыходнасці: «… Ды не на маю долю выпала гэта»; неадпаведнасць ідэальнага і рэальнага: «У марах жыццё — Казка, а спраўдзі — гніцьцё раба і вечная незабяспечанасьць»; бясконцасць адзіноты: «Век сам. Я нікога не меў блізкага»; вельмі сціплая, заніжаная ацэнка зробленага:

«Багата я думаў зрабіць, ды не зрабіў нічога»; шкадаванне і наканаванасць: «Шкода паміраць так марна, але трэба».

Ужо ў наступным, дзевятнаццатым, нумары В. Ластоўскі змяшчае мініяцюру «Мары» з прысвячэннем «Памяці С. Палуяна». Уваскрашае мары адляцеўшага паэта. Супрацьпастаўляе бясконцую вечную прыгажосць паднебных высяў, прастор, вольнасць і тую бяздольнасць і маркотнасць, што снуецца ўнізе: трухлявыя вёскі, «як гнойныя раны гарады — прытулак нядолі, раскошы і нечысьці ўсякай» [1, с. 294]. Але самае страшнае — духоўнае рабства, «рабства ў крыві і касьцях». І чалавек, што народжаны быць вольным, прагне вырвацца, каб не загубіць сваю вольную душу: «Гэй, далей і далей да вышы бязьмернай кіруйся сьцежкай заломнай!» [1, с. 295]. Бы ў антычным міфе пра Праметэя, узнікае вобраз арла — птушкі вольнай, якую герой прагне напаіць сваёй крывёю: «Пій, вольны птаху, кроў з-пад сэрца! Рві вострымі кіпцямі грудзі мае!». Відаць, воблік С. Палуяна не пераставаў трывожыць душу В. Ластоўскага. Таму ў дваццатым нумары змяшчае працяг імпрэсіі «Мары», дзе свядомасць лірычнага героя вядзе праз восеньскае свята вольнага звераУзвіжанне ў халодную пару, у якой валадарыць ночка з зімой. Дзікі, бязладны рух, напоўнены страхам, ператвараецца

ўрэшце ў пустату, холад аж да поўнага самазабыцця, самазнішчэння. А ў нумары дваццаць другім — трэцяя частка імпрэсіі, дзе аўтар разважае пра жыццё і смерць, пра волю спрадвечнага Кону.

Як вядома, менавіта В. Ластоўскаму належыць прысвячэнне ў найпрыгажэйшай з кнігаў беларускай паэзіі «Вянку» — «Вянок на магілу Сяргея Палуяна», за што Максім Багдановіч быў удзячны свайму рэдактару.

Максім Багдановіч і Сяргей Палуян — адна з цікавых старонак нашаніўскай літаратурнай гісторыі ў асобах. Агульнавядома пра іх узаемную прыязнасць. Гэта былі два вялікія маладыя таленты, паяднаныя адным імкненнем — служыць Адраджэнню свайго Краю.

Менавіта С. Палуян, з’явіўшыся ў рэдакцыі «Нашай Нівы», «рэабілітаваў» вершы М. Багдановіча, вярнуўшы іх з архіву. У спадчыне М. Багдановіча тры вершы, прысвечаныя С. Палуяну: трыялет, змешчаны на зваротным баку фотаздымка, «Я, нядужы, бяскрыдлы паэт… », трыялет «С. Палуяну», верш «С. Е. Палуяну». Напісаны ў 1909 годзе, пры жыцці паэта, апошні з пералічаных твораў успрымаецца як прароцтва. Жыццё паэта нагадвае яркі след

зоркі, што сваім ззяннем асвятляе начное неба. Гэтак жа яркім ёсць шлях творцы:

Так свабодна, так ярка пражыць —
Лепшай долі няма на зямлі.
Усё кругом на мамэнт асвяціць
І пагаснуць у цёмнай імглі [3, с. 104].

Ці не гэты верш гучаў для С. Палуяна рэквіемам у тыя ягоныя апошнія хвіліны, калі рыхтаваўся да сыходу, калі пісаў развітальны ліст? Бо і ў лісце — жыццё як краса і светласць, і ў вершы — гэтак жа: «Светлы ж след будзе вечна жывым». Мо гэтая вера — светлы след… — дадала яму сілаў сысці.

І ўжо пішучы апошні трыялет «С. Палуяну» М. Багдановіч ізноў уваскрашае багдановічаўскія-палуянаўскія вобразы: «Красу, і светласць, і прастор // шукаў… » Галоўнай прычынай трагедыі М. Багдановіч лічыў адзіноту, бо добра ведаў, што гэта такое: сам усё жыццё быў адзінокім. Пісаў і пра сябе таксама, і сваю долю прадказаў:

Ты быў, як месяц, адзінокі:
Самотна жыў, самотна ўмёр.
Хоць свет і людны, і шырокі, —
Ты быў, як месяц, адзінокі [3, с. 260].

У знакамітым артыкуле «Глыбы і слаі» таксама згадваецца імя С. Палуяна, тая вялікая драма нашай літаратуры. М. Багдановіч падкрэслівае нерэалізаванасць таленту творцы: «... Якая любоў да Беларусі таілася ў яго сэрцы, які шырокі, мнагабачны талент загінуў з яго смерцю... » [4, с. 192].

Янка Купала, які ў тым часе жыў у Пецярбургу, напісаў паэму «Курган», у якой узвышае вобраз мастака, чыя творчасць, «песня-дума» падуладны толькі Небу. Прысвячае яе С. Палуяну. На жаль, прысвячэнне не пазначана ні ў падручніках, ні ў выданнях кнігаў народнага паэта. Верш Купалы «Памяці С. Палуяна» гучыць як суровае асуджэнне тых грамадскіх з'яваў: упадку, духоўнай слепаты, паніжэння, цемры, — што губяць маладыя сілы. Адметнасць таленту, незвычайнае бачанне жыцця, глыбокае разуменне літаратуры азначае Я. Купала ў асобе творцы:

Так мала жыў, а столькі ўжо рабіў надзей
Сваім паглядам нештодзённым! [5, с. 129]

У імпрэсіі «Раны» Ядвігін Ш. выкарыстаў прыём градацыі. Нагнятанне пачуццяў, болю, які даводзіць да апошняй, крайняй мяжы. Дасканалая трохпункцірная, трохвектарная кампазіцыя, дзе строга

сіметрычна размешчаны асобныя радкі, вылучаецца строгасцю, завершанасцю, адшліфаванасцю. Рана ад страты маладога паэта, зразумела, самая вялікая:

Бываюць раны большыя і меншыя.
Меншыя — заўсёды крывавяцца.
Большыя — залечвае толькі... смерць.
Гэтак на душы. [6, с. 33]

Шчырае сяброўства звязвала С. Палуяна з Цішкам Гартным. Відаць, няпростымі былі стасункі між імі, пра што сведчыць «Апошні ліст С. Палуяну», які ўспрымаецца як шчырая споведзь перад сябрам, адначасна і як адказ на той развітальны ліст, бо адрасаваны ж ён быў не проста аднаму сябру-ўкраінцу, а ўсім сябрам. То быў ліст у будучыню. Гэтак успрымаюцца і ўсе ягоныя творы. Асабліва — верш у прозе «Хрыстос уваскрос!», пра які згадвае Ц. Гартны: «Пад вясёлыя радасныя клікі велікоднага звону, пад мяккі і палкі яго напеў я чытаў апошняе прашчальнае слова нам, беларусам, і нашай зямлі — Радзіме Беларусі Сяргея Палуяна. Гарачае сэрца і глыбокая душа маладога шчырага пісьменніка з крыві і болю выкавалі нам сардэчнае павіншаванне, шырокую радасць і глыбокую скаргу» [7, с. 140-141].

Верш Ц. Гартнага «С. Палуяну» — гэта маналог-развітанне, дзе напоўненыя

фальклорнай паэтыкай радкі («Не дала ліхая доля // Штоб хацеў ты мець... ») з узнёслымі, рамантычнымі вобразамі: «Ажно скрыдлы тваіх думак // Вецер адсякаў... » [7, с. 140]. Магчыма, не без удзелу Ц. Гартнага быў напісаны ў «Нашу Ніву» ліст за подпісам «Беларусы з Капыля і Слуцка». Ліст эмацыянальны, паэтычны. Смутная вестка, як сумная хмара, пра смерць С. Палуяна выклікала жаданне яшчэ больш старанна працаваць на той ніве, якую ён засяваў: «Няхай жальба тваёй адзінокай магілы зродзіць у нас гарачае жаданне долі і сьвету, скарэйшага сьвету для нашай роднай маткі Беларусі» [1, с. 333].

З гэтым лістом пераклікаецца развітальны допіс Алеся Гурло, змешчаны ў №20. Напісаны ў форме звароту да паэта, ліст напоўнены параўнаннямі, метафарамі. Надзвычай вобразны, згадваецца тое ж святло, якога так прагнуў С. Палуян для сябе і свайго Краю: «Ты хацеў адкрыць народу свайму дарогу да сьвету, але не даждаўшыся гэткай залатой пары, зламаўся ты, як кветка ад ветру» [1, с. 317]. Гэтае параўнанне з зламанай кветкай не адзінае ў творах-водгуках. Так, у артыкуле В. Ластоўскага «Памяці Сяргея Палуяна» гэтак апісваецца паэт у дамавіне: «Ляжаў сярод павяўшых кветак, сам як кветка, зламаная ў часе красавання» [1, с. 274]. М. Багдановіч, які

вельмі любіў углядацца ў начное неба, параўнаў С. Палуяна з месяцам і зоркай.

Несправядліва рана абарвалася жыццё гэтага светлана юнака, не зразуметага, не падтрыманага ні роднымі, ні аднадумцамі. Надзелены прыродай шматбаковым талентам, С. Палуян падаваў вялікія надзеі. Пра тое сведчыць напісанае, што паспеў зрабіць і што дайшло да нас.

Літаратура:


1. Наша Ніва. Факсімільнае выданне. Выпуск 1910. — Мн. : Тэхналогія, 1999. — 801 с.

2. Карбжыцкая Т. , Рагойша В. Ускрылены рэвалюцыяй // Палуян С. Лісты ў будучыню. Проза. Публіцыстыка. Крытыка. — Мн. : Маст. літ. , 1986. — 215 с.

3. Багдановіч М. Поўны зб. тв. У 3 т. Т. 1. — Мн. : Навука і тэхніка, 1992. — 752 с.

4. Багдановіч М. Поўны зб. тв. У 3 т. Т. 2. — Мн. : Навука і тэхніка, 1993. — 600 с.

5. Янка Купала. Поўны зб. тв. У 9 т. Т. 2. — Мн. : Маст. літ. , 1996. — 342 с.

6. Ядвігін Ш. Выбраныя творы. — Мн. , 1976. — 311 с.

7. Цыт. па выд. : Палуян С. Лісты ў будучыню.

# Матыў балю, бяседы-вяселля паводле нізкі Максіма Багдановіча “У зачарованым царстве”

Вылучэнне матыву балю, бяседы-вяселля як характэрнага беларускай літаратуры тлумачыцца найперш тым, што ў спадчыне літаральна ўсіх творцаў гэты матыў надзвычай пашыраны, ужываецца як на ўзроўні ідэйна-тэматычным, гэтак і эмацыйна-вобразным.

Матыў балю, бяседы-вяселля ўключае ў сябе мноства сэнсавых адценняў, таму мэтазгодна ўжо ў ягоных межах гаварыць пра семантычныя пераходы, як тых звязаных матываў, якія перадаюцца ад адной мастацкай з’явы да другой шляхам прырашчэння дадатковых сэнсаў. Менавіта такія эстэтычныя феномены складаюць эфект “лейтматыўнага гнязда”.

У аснове семантыкі ўсіх трох панаццяў (баль, бяседа, вяселле) — вясёлы збор. Разам з тым кожнае мае некалькі значэнняў, адметных адценняў сэнсу. Так, баль, як падае “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы”, вечар з танцамі і вясёлымі забавамі, вялікі званы абед, а ў пераносным сэнсе —

нястрымны разгул чаго-небудзь; бяседа — збор гасцей з пачастункамі, вяселле — абрад шлюбу і ўрачыстасць, святкаванне, звязанае з гэтым, шлюбны поезд, вясёлае правядзенне часу, гульня, забава [1, с. 335, 443, 603].

Збор гасцей, бяседа, баляванне ў аснове сваёй можа мець не толькі вясёлы, радасны настрой, але і смутны, трагічны. Таму мэтазгодна гаварыць пра інварыянтнасць, узаемадзеянне з іншымі матывамі. У залежнасці ад эмацыйнага напаўнення матыў балю, бяседы-вяселля можа суправаджацца, перакрыжоўвацца з матывамі, радасці, шчасця, дарогі, дому або смутку, тугі, ростаняў, бездарожжа, паязджанства, бяздомнасці.

Матыў балю, бяседы-вяселля ў творчасці Максіма Багдановіча даволі пашыраны. Так, у паэтычнай спадчыне выяўлена выкарыстанне ў той ці іншай ступені ў 28-і творах. У першай нізцы “Вянка” “У зачараваным цартсве” першага раздзела “Малюнкі і спевы” — у васьмі.

Ужо ў назве гэтага раздзела паэт адлюстроўвае гэткі важны элемент балю, бяседы як спевы. Намаляваная песня. У дасканалых паэтычных вобразах. Пачынаецца з сцішанага гучання старадаўняга беларускага міфа. Тут матыў

балю непасрэдна перакрыжоўваецца з міфалагічнымі матывамі. Уваскрашоныя міфалагічныя вобразы лесуна, вадзеніка, змяінага цара, русалкаў. Ледзь чутны водгалас, “гул даўняга міфа” [2, с. 474] суправаджае адраджэнне новай беларускай бяседы, распачынае новы баль, дзе першую скрыпку вядзе лясун, валадар абшару. Беларускі баль, беларуская песня-гул, сумная, маркотная, ледзьве чутна староннямy слухачу:

Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун Пачынае няголасна граць… [3, с. 52]

Матыў смутку, што падсвечвае тут спеўгранне, аднак, не навявае безнадзейнасці: гул-заклік лесуна-валадара пачуты, успрыняты, усё падрыхтавана да абуджэння. Падуладанае яму ўсё у наваколлі ператвараецца ў музычны інструмент, гіганцкі, магутны, дзе струнамі — сосны:

Пад рукамі яго, навяваючы сум, Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн, Тонкаствольныя сосны звіняць[3, с. 52].

Усё ўключаецца ў шматгалосы, шматфарбны спеў — рух — пераліў: “пацямнела рака”, “зашамрэлі каласы”, “шэпча… галасок вецярка, што зіяедрыжыцьна лісцёх лазняка”. Надзвычайная

зрокавая і слухавая чуйнасць (а гэта і ёсць чуйнасць душы) высвечвае на агульным фоне кволыя, далікатныя аскепкі: каласы, шэпт, лісце лазняка, кроплі слёз, што сведчыць пра ўсеагульную далучанасць да спеву-руху, важкасць і значнасць кожнай, хай найменшай, праявы, істоты. Каласы стануць жытам, што дае жыццё, вецярок, набраўшы сілаў, магутнай знішчальнай стыхіяй, а кропля — камень точыць.

Баль-танец нябесных свяцілаў распачынае лірычнае дзеянне верша "Змяіны цар", ключавым кампанентам якога харавод — старадаўні масавы танец, што суправаджаецца песнямі і драматычымі дзеяннем: "У цёмным небе — хараводы // Сінявістых зорак..." [3, с. 56]. Харавод — дзеянне зладжанае, прыгожае, дасканалае. А нябесны харавод можна ўспрымаць як вышэйшую, ужо дасягнутую гармонію, да якой імкнецца ўсё зямное. Таму краса нябеснага хараводу і вабіць-кліча срэбраных змеек "з цесных, душных, падзямельных норак" у шлях да цёплага выраю. Гэта шлях — імкненне наблізіцца да вечнага нябеснага хараства, гармоніі — паўстае ў вобразах срэбных стужкаў, што пралеглі па лясах, палях. Гэта — вектар, што мае пачатак і бясконца імкнецца да завяршэння, да хараводу, што сімвалізуе кола, якое не мае ні пачатку, ні канца. Сімвал бясконцага руху,

вечнага жыцця, жыцця ў раі. Змяінага цара не палохае нішто ў гэтым руху, нішто не можа быць перашкодай. Так, да сустрэчы з чалавекам, гаспадаром зямных абшараў, каб перайсці зямную мяжу, падрыхтаваны багаты водкуп: “Залаты ражок яму // Я ўраню з Кароны”. Тут таксама — водгук старадаўняга міфа пра чарадзейныя ўласцівасці ражка з залатой кароны змяінага цара, атрыманага ад удзячнага госця-змея.

У гэтым кантэксце дарэчы будзе прааналізаваць матыў балю ў вершы “Срэбраныя змеі”, што не ўвайшоў у змест “Вянка”, але ў час першай публікацыі ў “Нашай Ніве” ў 1911г. меў пазнаку — “З цыкла “Вадзянік”. Таму мае непасрэдную сувязь з нізкай “У зачарованым царстве”.

У вершы адлюстраваны матыў балю, пазначаны вытанчанай эротыкай, што сягае ў глыбіні часу, успрымаецца як водгалас старадаўніх культаў, якія абагаўлялі каханне. Выпушчаныя на волю з водных глыбіняў воляй вадзеніка, срэбныя змеі распачынаюць свой баль:

Будуць яны ўсю ноч віцца, Ў хвалях хрыбтамі блішчаць; Будуць сціскацца, круціцца, Гэтак да рання гуляць [3, с. 239].

Літаратуразнаўца Ірына Багдановіч гэтак трактуе намаляваную Максімам Багдановічам карціну: “Бліскучы рухомы клубок, абуджаны ветрам, вырабляе на азёрнай паверхні тонкія дзівы, што літаральна зачароўвае назіральніка з уражлівай паэтычнай душой” [4, с. 184]. Гэта і ёсць дзівы кахання. Гэта — эратычны баль, як піша далей даследчыца, “начны фэст, начное свята падобна стыхіі, што разняволіла скаваныя магчымасці прыроды і духу” [4, с. 184]. Гэтае дзіва асвечана Небам, срэбным святлом месяца. Маладзік не толькі сведка, але і мастак, майстра, які ўпрыгожвае клубок змеяў срэбнымі пералівамі. Іх эратычная гульня-каханне асветлена нябесным святлом. Але праз нябеснае святло і знішчаецца. Сонца, новае святло нішчыць тую красу:

Свецячы блескам чырвонца Праз парадзеўшую мглу, Пусціць, устаючы, сонца Ў іх залатую іглу [3, с. 239].

“Два незабыўныя імгненні апісвае Багдановіч у вершы — таямнічасць з’яўлення і таямнічасць знікнення — як два неад’емныя пачаткі ў прыродзе” [4, с. 184]. Дапоўнім: гэта два незабыўныя імгненні ў каханні. Згадаем назву нізкі, што не ўвайшла ў першае выданне “Вянка”, — “Каханне і смерць”. Гэты матыў асноўны і ў вершы “Срэбныя змеі”.

Адметна прагучаў матыў бяседы, хмельнага балявання ў вершы “Возера”. Возера — гэта сама дасканалая чаша, неад’емны атрыбут балю:

У чарцы цёмнай і глыбокай Плешча, пеніцца віно; Хмелем светлым і халодным Калыхаецца яно [3, с. 59].

Напоўненая хмелем чарка-возера не стрымлівае тую магутную энергію, што выліваецца, запалоньвае ўсё навокал. І ўсё хмялее, пачынае рухацца ў адмысловым танцы, падуладна рытму, закладзенаму ў хмелі-віне: “І хістаецца асока, // І шуміць высокі бор…” І душа чалавека, гэтак схільная ўбіраць у сябе навакольны рух, адгукаецца на баль прыроды, сама ператвараецца ў музычны інструмент: “А ў душы не замаўкае // Струн вясёлых перабор”. А зрэшты, музыка ў душы чалавека нараджаецца найперш, напаўняе чарку возера хмелем, хмеліць усё вакол.

Семантычнае поле матыву балю ў паэзіі Максіма Багдановіча метафарызуецца, пераносіцца ў свет прыродных стыхіяў, дзе чаргуюцца спакой і рух, дзе гучыць музыка, дзе гэтак жа, як і ў застоллі, пеніцца віно. Так, у вершы “Ноч. Газніца гарыць, чырванее” чутны водгалас начной бяседы, дзе ролю гаспадані іграе завея: “За сцяной

запявае завея, // Сумна бомамі ў полі звініць" [3, с. 70]. Музыка-гул як ланцуговая рэакцыя ("З краю ў край яе гул аддаецца"), якая захоплівае чалавека, пачынае гучаць у ягонай душы прадчуваннем вясновага абуджэння. А хіба не адгалосак праўдзівага балю ў імклівым руху-лёце ў вершах "Зімовая дарога" і "Зімой", дзе музычным аздабленнем — звон бомаў, дзе чалавек гэтак жа далучаны да ўсеагульнага свята. Усё ў найбагацейшых уборах, падараваных шчодрым месяцавым ззяннем (снягі пакрыты "рызай срэбнаю"):

Ўзрывайце ж іх санямі, коні! Звіні, вясёлых бомаў медзь! Вакол лятуць бары і гоні, Ў грудзях пачала кроў кіпець. [3, с. 72]

Матыў узнёслага вяселля-радасці прагучаў у вершы "Маёвая песня". Праўдзівы апафеоз, "ціхі, ясны гімн" вясноваму абуджэнню. Песня-танец сінякрылага матылька зліваецца з спевамі ўсяго наваколля:

Ці не вецер гэта звонкі Ў тонкіх зёлках шапаціць? Або мо сухі, высокі Ля ракі чарот шуміць? [3, с. 76]

Легкавайныя крылы песні падхопліваюць светлыя думы-летуценні героя, адгукаюцца ў ягонай душы. І вось ужо ўсё вакол урачыста спявае, вітаючы святло, залатое сонца: "Песня рвецца і ліецца // На

раздольны, вольны свет". Матыў узнёслай радасці перапляецца з матывам смутку. "Невыпадкова ў самым сонечным і жыццесцвярджальным вершы ў канцы нізкі..., вершы-апофеозы, прасякнутым светлынёю, радасцю жыцця, гімн быццю і красе вызвоньвае трапяткімі крыльцамі "У струнах сонца залатых" "Шпаркі, лёгкі, сінякрылы матылёк" — сімвал нявечнасці" [2, с. 483]. Узнікае адчуванне ненадзейнасці гэтай, адначасна вечнай і такой кволай, красы, незразумеласці, неспазнанасці свету. Гэты матыў асабліва паглыбляецца ў фінале верша.

Матыў балю, бяседы-вяселля ў вершах нізкі "У зачарованым царстве" пераплятаецца з матывамі міфалагічнымі, літаратурнымі, асабістымі (радасці, смутку), філасофскімі (пошуку гармоніі ў свеце і ў чалавечай душы, нявечнасці, неразгаданасці красы).

Літаратура:

1. Гл. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. Т. 1. — Мн.: Галоўная рэдакцыя БелСЭ, 1977. — С. 335, 443, 603.

2. Чабан Т. "Космас "Вянка" // Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3-х т. Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні,

чарнавыя накіды. — Мн.: Навука і тэхніка, 1992. — С. 463-518.

3. Багдановіч М. Поўны збор твораў. У 3-х т. Т. 1. Вершы, паэмы, пераклады, наследаванні, чарнавыя накіды. — Мн.: Навука і тэхніка, 1992. — 752 с.

4. Багдановіч І.Э. Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага Адраджэння. — Мн.: Беларуская навука, 2001. — 387 с.

# Верш Янкі Купалы “...О так! Я — пралетар!..” і яго ацэнкі ў айчынным літаратуразнаўстве

1923 — 25-ыя гады не былі плённымі для Янкі Купалы: за тры гады напісана ўсяго дзевяць вершаў. Між іх — знакаміты васьмірадковік “...О так! Я — пралетар!..”, якому “пашанцавала” надзвычайна: няшмат у спадчыне народнага песняра вершаў, што выклікалі гэткую ўвагу з боку літаратурнай крытыкі. Мноства пытанняў ставіць гэты верш, выклікаючы гэткае ж мноства адказаў.

Пачнем з часу напісання. Укладальнікі чацвёртага тому поўнага збору твораў паэта традыцыйна змясцілі верш між творамі 1924 г., спасылаючыся на тое, што ў зборніку “творы 1918 — 1928”, выдадзеным у 1930 г., ён датуецца гэтым годам. Але ж, як вядома, і тое пацвярджаюць аўтары каментароў да тому, у Літаратурным музеі Янкі Купалы маецца “аўтограф з датай 1923 г. і подпісам: Янка Купала” [1, с. 403].

На верш звярнула ўвагу ўжо заходнебеларуская крытыка. Даволі дзіўна чытаць сёння ў Антона Луцкевіча сцверджанне пра тое, што Купала “ўзыходзе

на шлях пралетарскі і з велічэзнай гордасцяй абвяшчае сваё найнавейшае “Credo”: “...О так! Я — пралетар” [2, с. 57]. АлесьСянкевіч услед за ўзвышэнскім крытыкам Адама Бабарэкам заўважае тут тайную ўсмешку. Наступныя пытанні — адсюль: якое пачуццё выказана ў вершы, з якой інатанцыяй неабходна чытаць? Як павінен гучаць першы радок — з гонарам, ледзь не пампезнасцю, бо вымагаецца гэта ўзмоцнена-сцвярджальным “О так!” і двума клічнікамі ў адым радку? Ці — роздумна, з болем, каб выказаць расчараванне, клопат, смутак? Ці — з іроніяй, хаваючы за тымі ж клічнікамі тайную ўсмешку? Сучасныя даследчыкі часцей схіляюцца да апошняй версіі. І гэта зразумела. Так, Вячаслаў Рагойша зазначае, што Купала “іранічна паддзеў” у вершы трацкісцка-сталінскі касмапалітызм: “Усё тут: і самаўпэўненая характарыстыка “пралетара”, і жаданне пахваліцца тым, чым ганарыцца нельга... — усё працуе тут на іранічнае” [3, с. 197].

Бясспрэчна, мае рацыю Георгій Колас, які ў кнізе “Карані міфаў (Жыццё і творчасць Янкі Купалы” палемізуе з літаратуразнаўцам А.А.Лойкам. Палемізуе — мякка кажучы. Справядліва, але занадта жорстка знішчае напісанае Лойкам. Усё ў “міфе другім” цікава і зразумела, апроч стылю дыскусіі.

Даследчыкі (Вячаслаў Рагойша, Гергій Колас) цалкам слушна і доказна падкрэсліваюць, што “вершу папярэднічае шматпакутная палеміка Купалы” [4, с. 116] з ворагамі беларушчыны. Пра тое сведчыць і нетрадыцыйны пачатак твора: з шматкроп’я.

Надзвычай цікавыя назіранні над зместам верша знаходзім у манаграфіі Ірыны Багдановіч “Янка Купала і рамантызм”. Але ці “пытаннем з пытанняў для Купалыбыло, як пагадніць у сваёй душы канцэпцыю пралетарскага інтэрнацыяналізму, якая ўжо тады пачынала абсалютызавацца, з любоўю да свайго краю, адчуваннем кроўнай прыналежнасці да яго”? [5, с. 183]. Мяркуецца, што Купала і не збіраўся пагадняць тое, што для яго было непрыймальным (канцэпцыя пралетарскага інтэрнацыяналізму), з тым, што было неад’емным, дарагім, а імкнуўся выкрыць антыгуманную, антыбеларускую сутнасць гэтай канцэпцыі, высмеяць яе носьбітаў, іх разуменне такой высокай духоўнай каштоўнасці, якой ёсць Бацькаўшчына, Беларусь.

Даследчыца таксама падкрэслівае палемічны характар верша. Але ці ў паэтычнай апазіцыі абагульненых вобразаў-сімвалаў “раб—цар” гэтая палеміка? Ці сапраўды, “характэрныя для паэтычнай манеры Купалы сталыя

эпітэты “раб пакутны”, “цар магутны” яшчэ больш акцэнтуюць матыў незваротнага пераўтварэння свету, неператожнасць новага ўладара зямлі”? [5, с. 183]. Ці мажліва гэткая метамарфоза: пераўтварэнне колішняга раба ў магутнага цара па сутнасці, калі адкінуць такія выкрунтасы гісторыі, якім быў і кастрычніцкі пераварот? Рабская натура, псіхалогія раба нязменная. Рабства, несвабода калечыць як гаспадароў жыцця, робячы іх бяздушнымі дэспатамі, чые паводзіны не абмежаваны ніякім (ні Божым, ні людскім) законам, гэтак жа не ў меншай ступені і рабоў, у сэрцы якіх — нянавісць, прага помсты, прага рэваншу, прага быць царом над царамі. Рабская, хамская пыхлівасць цешыць самалюбства героя-антыгероя, кіруе інтанацыяй, з якой ён прамаўляе. Ён — воляй гістарычнага лёсу — цар. А па сутнасці: быў рабом, рабом і застаўся. Ці, як цвердзіць народная мудрасць: пан з пана — пан, пан з хама — хам. Таму тут хутчэй не столькі матыў “незваротнага пераўтварэння свету”, колькі немажлівасці пераўтварэння ў скалечанай рабскай душы, калі свядомасць “героя” здольна будаваць сацыяльныя стасункі толькі па зацверджанай ад пачатку схеме, толькі перастаўляючы месцамі ўдзельнікаў працэсу.

Тут дарэчы будзе згадаць вершр Янкі Купалы “Пазвалі вас”, напісаны ў 1922 г. У ім паэт

таксама выкарыстоўвае згаданыя вобразы-сімвалы: “Хапае вас, рабы-цары…” [1, с. 112] не ў якасці паэтычнай апазіцыў, а як адзінае цэлае, непадзельнае. Словы напісаныя праз злучок, невыразна, дзе тут галоўнае слова, дзе прыдатак, бо ад змены Ленін і ягоны ўрад. Тая ж знішчальная насмешка гучыць у адрас “герояў”:

… Пазвалі вас за волю стаць,
І далі ўладу путы рваць,
І далі ўладу біць цароў —
Зрабілі з вас гаспадароў. [1, с. 111]

Таму, аналізуючы верш “…О так! Я — пралетар!..”, больш мэтазгодна выкарыстоўваць злучок, а не працяжнік: раб-цар.

“Мне бацькаўшчынай цэлы свет” — абсурднае, недарэчнае сцверджанне, якое гучыць з вуснаў антыгероя, не вылучаючыся з агульнай прэтэнзіі на веліч ва ўсім. Адбываецца падмена сэнсу знакавых для чалавека паняццяў. Бацькаўшчына — месца нараджэння, родны край. Чалавек не можа гэтак жа любіць увесь свет як тое месца, дзе закапана нітка-повязь з маці, радзімай — пупавіна. Такія звычаі прадзедаў згублены. Наіўнымі і бездапаможнымі выглядаюць яны сёння, асабліва ва ўмовах урбанікі. Але не былі неразумнымі нашы продкі.

Узнікае яшчэ адно мелаважнае пытанне: з якой літары Купала напісаў слова "бацькаўшчына"? Звычайна існінай у апошняй інстанцыі тут павінен быць Поўны збор твораў. На жаль, у каментарох маюцца недахопы, што прааналізавана Анатолем Сідарэвічам. У поўным зборы напісана з вялікай. У большасці даследчыкаў (А.Навіна, І.Багдановіч, Г.Колас, В.Рагойша — з малой. Гэтак жа і ў аўтографе, што ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Гэтак і ў ранейшых выданнях. Звычайна ў творах Купалы знакавыя паняцці: Бацькаўшчына, Айчына — напісаны з вялікай літары. Да прыкладу: "На вялікі сход!", "Па Бацькаўшчыну!!!" (драма "Раскіданае гняздо"), "Народ аграблены — бы з торб жабрак — // За Бацькаўшчыну павядзі ў агні!" (верш "Паўстань..."), "Каб вярнуўся чалавекам // К роднай Бацькаўшчыне ён" (верш "Матцы"), "І тваю маці-Бацькаўшчыну рэжа, // Жывую рве на часці, на кускі" (верш "Свайму народу"), "Я голасна йграць буду ў тайным брэдзе, // Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!" (санет "Для Бацькаўшчыны"). А тут гэткая звышпрэтэнзія — на цэлы свет — і з малой. Ці не падкрэсліваў і гэтым Купала: не, не мая гэтая "бацькаўшчына"?

Купала не быў адзінокім, разумеючы ўсю абсурднасць такога ўсведамленння Бацькаўшчыны. Так, Валерый Брусаў пісаў:

Какая пустая бутата
Говорить, что Отчизна везде.

У наступным радку сустракаем знаёмае, роднае: "Ад родных ніў" — паэтычная аплікацыя з верша Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі", у якім самае шчырае, глыбокае пачуццё героя звернута да Бацькаўшчыны. Нацыянальнае, роднае, спадчыннае здольна выліваецца з душы мастака падсвядома, нават калі ён вымушаны ткаць чужыя ўзоры, калі над ім — чужая воля, прымус. А што ж наш герой — пралетар? Што ён здольны сказаць пра родныя нівы? Адно тое, што ён (і ніколі — Купала) сказаць і здольны: "Ад родных ніў я адвярнуўся..." Што яму родныя нівы? Паняцце страціла сэнс. Вырванае з Багдановічавага і далучанае да пралетарскага "адвярнуўся" выказваецца ім як вышэйшае дасягненне. У вершы Максіма Багдановіча іх, вясновых дзяўчат, "узялі", праз прымус "у панскі двор", адарвалі "ад родных ніў", тут — адвярнуўся сам, свядома. Ды — даволі! Гэта ўжо Купала не вытрымлівае (шматкроп'е гучыць тут як абрыў), закрывае рот таму, каго яму і навязваюць у героі ворагі беларушчыны. Ён, стомлены, спакутаваны ад дэмагогіі, хамства, сам бярэ слова, каб сказаць пра сваё, свой боль і свой адвечны клопат.

“Адно” тут — і як “адзінае” — самае важнае, і як “аднак” — нягледзячы ні на што: мроя-мара Беларусь жыве ў сэрцы. І гэта бяда, якую Купала не збыў ніколі.

Заключны радок верша — яго вяршыня: “Мне сняцца сны аб Беларусі!” Недарэмна ж расійскій паэі і перакладчык Аляксандр Пракоф’еў пісаў: “Калі б ад Янкі Купалы застаўся б адзін радок, ...то я ўсё роўна сцвярджаў бы, што гэта паэт магутны, народны” [6, с. 5]. Ён можа ўспрымацца як рыса, мяжа, за якой ужо няма той Беларусі, дзеля якой жыў і тварыў. Гэта і выснова: ад Беларусі засталіся толькі сны, яна — рэальнасць. У гэтых словах — сугучча розных пачуццяў, настрояў: пакута, боль (бо толькі — сон), светлая радасць (усё яшчэ сняцца). Клічнік у гэтым радку падкрэслівае ягоны смелы выкрык-выступ супраць іх, хто ад Бацькаўшчыны адвярнуўся. Іх бацькаўшчына — цэлы свет, яго Бацькаўшчына — Беларусь.

Наогул, матыў сну ў творчасці Янкі Купалы скразны. Згадаем драматычную паэму “Сон на кургане”, сон Зоські з драмы “Раскіданае гняздо”, магільны сон — грамадская бяздзейнасць у краі ў паэме “На Куццю”, дзе Купала “давёў гэты вобраз да апагея” [7, с. 15]. Сны пра Беларусь для паэта — той жа лабірынт, што і сон яго героя Сама. Паэт і не

спрабуе пакўнуць гэты лабірынт, бо там для яго — выратаванне, адхланне. І надзея: пакуль сняцца сны пра Беларусь, яна — жыве.

Літаратура:

1. Купала Я. Поўны збор твораў у 9-ціт. — Т. 4. — Вершы, пераклады, 1915 — 1929. — Мн., 1997.

2. Навіна А. Адбітае жыццё. — Кн. І. — Вільня, 1929.

3. Рагойша В. Бацька нацыі. —Полымя. — 1992. — № 7. — С. 191—203.

4. Колас Г. Карані міфаў (Жыццё і творчасць Янкі Купалы). — Мн., 1998.

5. Багдановіч І.Э. Янка Купала і рамантызм. — Мн, 1989.

6. Прокофьев А. Слово величии таланта. — Литературная газета. — 1962. — 5 июля.

Васючэнка П. Янка Купала і сімвалізм. — Роднае слова. — 2002. — № 8. — С. 14-18.